ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 26 (1560) | Пятніца, 31 сакавіка 1961 года | Цана 4 кап.

НА РУБЯЖАХ СЯМІГОДКІ

Валя **Зуева** (на здымку злева), Соня **Ніканава** і Ліда **Кацапава** прыехалі на будаўніцтва Полацкага нафтаперапрацоўчага завода пасля заканчэння 10 класаў. Больш двух год працавалі яны на розных участках вялікай будоўлі. Зараз дзяўчаты займаюцца ў тэхнічным вучылішчы завода.

Фота **А. Васечкі**. Фотахроніка БЕЛТА.

## БЫЦЬ АКТЫЎНЫМІ ПАМОЧНІКАМІ ПАРТЫІ

**Р. КІСЯЛЁЎ,**
**міністр культуры БССР**

★

САВЕЦКІ НАРОД упэўнена, з вялікім поспехам ажыццяўляе гістарычныя задачы будаўніцтва камунізма ў нашай краіне. Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый работнікі і ўстановы культуры рэспублікі выступаюць актыўнымі барацьбітамі ў агульнанародным паходзе за далейшы ўздым прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры. Яны заклiканы дапамагаць партыі выхоўваць новага савецкага чалавека — будаўніка камуністычнага грамадства.

Кампартыя Беларусі, усе працоўныя рэспублікі змагаюцца за выкананне рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС, за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі. На нарадзе актыву Кампартыі Беларусі першы сакратар ЦК КПБ К. Т. Мазураў сказаў, што калгасы, саўгасы павінны ў бліжэйшыя гады сямігодкі давесці вытворчасць збожжа не менш, чым да 4,5 мільёна тон, або не менш 75 тон з кожных ста гектараў пахаці. Рэспубліка павінна здаваць дзяржаве збожжа 23 мільёны пудоў, мяса— 510 тысяч тон, малака — 2.200 тысяч тон ў год. За выкананне гэтых задач павінны змагацца і работнікі культурнага фронта.

Дзейнасць палацаў і дамоў культуры, клубаў і бібліятэк, кінатэатраў і кінаўстановак прыносіць вялікую грамадскую карысць, калі яна цесна звязана з жыццём народа. У сучасных умовах культурна-асветныя ўстановы павінны стаць цэнтрамі прапаганды рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС, мабілізацыі намаганняў народа на датэрміновае выкананне сямігодкі.

У мінулым годзе ў культурна-асветных установах для працоўных рэспублікі прачытана больш 250 тысяч лекцый і дакладаў, значная частка якіх прысвечана пытанням прапаганды перадавога вопыту ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Праведзена больш 10 тысяч тэматычных вечароў, 12 тысяч вечароў пытанняў і адказаў, звыш 40 тысяч маладзёжных вечароў, каля 9 тысяч канферэнцый чытачоў і шмат іншых культурна-масавых мерапрыемстваў. Звыш 15 тысяч маляўнічых стэндаў, плакатаў, транспарантаў прапагандуюць рашэнні партыі і ўрада, сямігадовы план і барацьбу за яго выкананне. У многіх клубах, бібліятэках, чырвоных кутках ёсць галерэі з партрэтамі перадавых людзей вытворчасці. Перадавікам прысвячаюцца спецыяльныя тэматычныя вечары, вусныя і светавыя часопісы, балі ў гонар пераможцаў у сацыялістычным спаборніцтве.

Раней у многіх раёнах і гарадах Беларусі праводзіліся святы песні як агляды творчасці народных талентаў. Пасля XXI з'езду партыі гэтыя масавыя мерапрыемствы набылі новы, больш глыбокі змест. Цяпер на святах працы і песні падводзяцца вынікі работы прадпрыемстваў і калгасаў за год, пераможцам у сацыялістычным спаборніцтве ўручаюцца пераходныя чырвоныя сцягі, выдаюцца прэміі і ўзнагароды. Пасля ўрачыстай часткі выступае з песнямі і танцамі мастацкая самадзейнасць.

Культурна-асветныя ўстановы за мінулы год дамагліся пэўных поспехаў у прапагандзе прыродазнаўча-навуковых і атэістычных ведаў. У клубах і бібліятэках рэспублікі было прачытана больш 30 тысяч лекцый і дакладаў на атэістычныя і прыродазнаўча-навуковыя тэмы. Праведзена восем тысяч тэматычных вечароў і вусных часопісаў, на якіх дэманстраваліся хімічныя доследы і паказваліся кінафільмы на антырэлігійныя тэмы.

Заслугоўваюць пахвалы тыя клубныя ўстановы, якія шырока адзначаюць герояў працы і распаўсюджваюць іх перадавы вопыт. За мінулы год у Даўжанскім клубе Віцебскага раёна праведзена 15 тэматычных вечароў, прысвечаных калгасным жывёлаводам. На такіх вечарах падводзяцца вынікі выканання сацыялістычных абавязацельстваў, выступаюць перадавыя даяркі з расказам пра свой вопыт работы, пераможцам уручаюцца ўзнагароды.

Прыкладаў добрай работы ўстаноў культуры нямала. Разам з тым яшчэ многія клубы, бібліятэкі, музеі, кінаўстаноўкі працуюць у адрыве ад жыцця прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, без шырокага актыву, недастаткова актыўна растлумачваюць працоўным пастановы Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, слаба прапагандуюць перадавы вопыт прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці.

Хоць Клімавіцкі раён Магілёўскай вобласці (загадчык аддзела т. Белакрылаў) і з'яўляецца перадавым па кінаабслугоўванню насельніцтва, тым не менш некаторыя культасветустановы не спраўляюцца са сваімі задачамі. У Дамамерыцкім сельскім клубе да таго змізарнела думка ў работнікаў (загадчыца клуба т. Пагодзіна), што тут нічога іншага не могуць прыдумаць, як забаўляць сваіх наведвальнікаў гульнёй у карты. А ў Паўловіцкім сельскім клубе (загадчык т. Стальмахаў) апроч танцаў нічога не праводзіцца.

У гэтым годзе адбудзецца грамадскі агляд дзяржаўных і калгасных клубаў рэспублікі. Да арганізацыі і правядзення агляду трэба паставіцца з вялікай адказнасцю, каб клубныя ўстановы Беларусі сталі сапраўды баявымі прапагандыстамі палітыкі Камуністычнай партыі, навуковых ведаў і перадавога вопыту.

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ пастаянна клапоціцца аб развіцці бібліятэчнай справы ў краіне. Вялікую ролю ў паляпшэнні работы бібліятэк адыгралі пастановы ЦК КПСС і ЦК КП Беларусі, прынятыя ў канцы мінулага года.

Летась у рэспубліцы праведзен грамадскі агляд бібліятэк, які выявіў многа новых здольных прапагандыстаў кнігі, добрых бібліятэк. Так, напрыклад, Пінская цэнтральная гарадская бібліятэка абслугоўвае больш васьмі тысяч чытачоў (на 1.885 чалавек больш, чым у папярэднім годзе). За год было выдадзена 131 тысяча экземпляраў кніг. Сістэматычна праводзяцца агляды літаратуры па розных галінах ведаў, наладжваюцца кніжныя выстаўкі. Бібліятэка мае шырокі актыў. Створана вялікая перасоўная сетка, якая абслугоўвае жыхароў горада. Працуюць 8 пунктаў выдачы, 17 перасовак, 29 хатніх бібліятэк. Літаратуру распаўсюджваюць, акрамя таго, 54 кніганошы. Праводзіцца разнастайная і змястоўная масавая работа. У мінулым годзе гэтая бібліятэка наладзіла 38 літаратурных вечароў, 13 канферэнцый чытачоў, 8 вусных часопісаў, 80 бібліяграфічных аглядаў.

Вялікую ролю ў актывізацыі працы бібліятэк адыграў двухмесячнік прапаганды і распаўсюджвання літаратуры аб перадавым вопыце, навуковай і тэхнічнай кнігі, праведзены ў мінулым годзе.

Цяпер у рэспубліцы праходзіць двухмесячнік прапаганды сельскагаспадарчай літаратуры. Бібліятэкі рэспублікі ўключыліся ва ўсенародную барацьбу за выкананне рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС. Імі аформлены кніжныя выстаўкі, праводзяцца калектыўныя чыткі і абмеркаванні матэрыялаў Пленума, выступленняў М. С. Хрушчова на занальных нарадах перадавікоў сельскай гаспадаркі.

Каштоўны пачын праявілі бібліятэкі Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці, арганізаваўшы на канферэнцыях чытачоў абмеркаванне брашуры Сырадоева і Арацкова «Грашовая аплата працы ў калгасе».

Далёка за межамі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці славіцца Талькаўская сельская бібліятэка (загадчыца т. Кандрацьева). Паказчыкі працы гэтай бібліятэкі вышэйшыя за паказчыкі раду раённых бібліятэк, такіх, як Докшыцкая, Аршанская, Міёрская, Івянецкая, Магілёўская, Кіраўская, Кармянская, Гомельская, Лельчыцкая, Акцябрская, Капаткевіцкая, Мазырская. Капаткевіцкая раённая бібліятэка, напрыклад, абслугоўвае толькі 1.003 чытачоў, тады як Талькаўская сельская бібліятэка— 1.539 чытачоў. Капаткевіцкая бібліятэка за год выдала 13 тысяч кніг, а Талькаўская—звыш 21 тысячы. Ёсць над чым падумаць загадчыкам гэтых раённых бібліятэк.

Радуе і тое, што многія бібліятэкі рэспублікі ўключыліся ў барацьбу за званне бібліятэк выдатнай працы. Ініцыятыва пайшла з Гродзеншчыны. Трэба, каб яе падхапілі ўсе культасветустановы Беларусі.

Такія асяродкі культуры, як Талькаўская сельская, Слонімская раённая, Пінская цэнтральная гарадская бібліятэкі, з'яўляюцца тымі маякамі, на якія павінны раўняцца прапагандысты кнігі рэспублікі.

У працы бібліятэк ёсць яшчэ буйныя недахопы. Бібліятэкі бралі абавязацельствы давесці кнігу да кожнай сям'і яшчэ ў 1960 г. Многія бібліятэчныя работнікі не стрымалі слова. У Гомельскай вобласці няма ніводнага раёна, які справіўся б з гэтай задачай. У радзе раёнаў Мінскай вобласці, такіх, як Любаньскі, Слуцкі, Мінскі, Маладзечанскі, паслугамі бібліятэк карыстаецца менш палавіны калгасных сем'яў.

Наш баявы рубеж — да XXII з'езду партыі давесці бібліятэчную кнігу да кожнай сям'і, а затым дамагацца, каб кнігу чытаў кожны пісьменны. Для гэтага ў нас ёсць усе магчымасці.

У НАШАЙ КРАІНЕ ўсё шырэй разгортваецца рух народных мас за глыбокае авалоданне ведамі і культурай. Гэты рух нараджае многа новых форм работы, якія садзейнічаюць камуністычнаму выхаванню працоўных. Адной з такіх дзейсных форм, якія дапамагаюць духоўнаму ўзбагачэнню савецкіх людзей, пашырэнню іх культурнага кругагляду, выхаванню эстэтычных густаў, з'яўляюцца ўніверсітэты культуры.

У сучасны момант у рэспубліцы працуюць 323 розныя ўніверсітэты. За апошні год створана 227. Сярод іх — 131 універсітэт культуры.

Практыка паказвае, што найбольшай папулярнасцю карыстаюцца тыя ўніверсітэты культуры, дзе праграма прадугледжвае вывучэнне якой-небудзь адной або некалькіх аднародных галін ведаў. У гэтым выпадку забяспечваецца глыбіня вывучэння выбраных пытанняў, неабходны ідэйна-тэарэтычны ўзровень ведаў.

У мэтах аказання метадычнай дапамогі ўніверсітэтам культуры створан рэспубліканскі грамадскі савет народных універсітэтаў. Міністэрства культуры БССР зацвердзіла мерапрыемствы па паляпшэнню работы ўніверсітэтаў культуры рэспублікі, якія прадугледжваюць стварэнне пры дамах народнай творчасці фільматэк з неабходнай апаратурай для выкарыстання іх на занятках універсітэтаў культуры. У дзяржаўных бібліятэках рэспублікі павінны быць створаны фонды грамафонных пласцінак і магнітных стужак з запісамі лепшых музычных твораў, лекцый, выступленняў і гутарак; бібліятэкі абавязаны рыхтаваць да кожных заняткаў кніжныя выстаўкі ў дапамогу слухачам народных універсітэтаў.

Дапамогу ўніверсітэтам культуры абавязаны аказваць усе творчыя калектывы, дамы народнай творчасці, кнігагандлёвыя арганізацыі.

Мы павінны ўзняць вышэй узровень працы ўніверсітэтаў і лекторыяў культуры. Варта звярнуць асаблівую ўвагу на аказанне практычнай дапамогі ў навуковым і культурным росце рабочых і калгаснікаў, якія змагаюцца за ганаровае званне ўдарнікаў камуністычнай працы.

НЕАД'ЕМНАЯ ЧАСТКА масава-палітычнай і культурна-асветнай работы — шырокі паказ насельніцтву кінафільмаў. Кінафільмы дэманструюцца ва ўсіх сельскіх і калгасных клубах, а ў 1508 клубах рэспублікі працуюць сельскія стацыянарныя ўстаноўкі. Вопыт работы Івацэвіцкага і іншых раённых аддзелаў культуры паказвае, што там, дзе кінаабслугоўванне насельніцтва не адрываецца ад іншых форм культурна-масавай работы, і выконваюцца планы па кіно і добра працуюць культурна-асветныя ўстановы.

Кожнаму зразумела, што трэба абавязкова выконваць фінансавыя планы. Але кожны работнік кінасеткі, павінен таксама разумець, што паказ фільмаў — вялікая палітычная справа і гэта галоўнае ў працы органаў кінафікацыі і кінапракату. Часта на кінаўстаноўках дэманструюцца пераважна замежныя фільмы, а савецкія карціны ляжаць на базах пракату. Так, напрыклад, у Гомельскай канторы кінапракату па віне ўпраўляючага т. Гарбачова кінафільм «Калыханка» праляжаў на базе 38 дзён, «Прыгоды Бураціна» — 23 дні, «Сябры-таварышы» — 97 дзён.

Цяпер штаты кантор і аддзяленняў кінапракату значна пашыраны, на кожныя 100 кінаўстановак уведзена пасада складальніка праграмы. Гэта дазваляе органам кінапракату палепшыць сваю працу. Трэба прасоўваць на экраны ў першую чаргу савецкія фільмы і лепшыя фільмы краін народнай дэмакратыі.

Паказ дакументальных фільмаў насельніцтву неабходна спалучаць з правядзеннем лекцый, дакладаў і гутарак сіламі вучоных, спецыялістаў і перадавікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

З мэтай прапаганды дасягненняў навукі і перадавога вопыту ў сельскай гаспадарцы ў рэспубліцы праводзіцца кінафестываль сельскагаспадарчых фільмаў. Трэба арганізавана правесці фестываль і дапамагчы працаўнікам калгаснай вёскі ў выкананні задач, пастаўленых студзеньскім Пленумам ЦК КПСС па далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі.

Неабходна больш канкрэтна дапамагаць калектывам кінамеханікаў, якія змагаюцца за званне камуністычных. Бо яны — смелыя энтузіясты, сапраўдныя разведчыкі будучыні на гэтым цяжкім участку працы. Галоўнае ўпраўленне кінафікацыі, абласныя ўпраўленні абавязаны палепшыць тэхнічную вучобу работнікаў кінасеткі.

Цяпер у рэспубліцы працуе больш пяці тысяч кінамеханікаў і матарыстаў. Штогод школы кінамеханікаў выпускаюць 700 чалавек. Але ўзровень тэхнічнай падрыхтоўкі іх у радзе выпадкаў недастатковы. Востра стаіць пытанне аб стварэнні ў рэспубліцы кінатэхнікума. Але пакуль няма тэхнікума, трэба дапамагаць людзям павышаць тэхнічныя веды праз курсы.

Вучоба работнікаў культуры, абагульненне і распаўсюджванне перадавых, новых метадаў работы — цяпер для нас галоўнае. Трэба паставіць справу так, каб семінары сталі сапраўднай школай вывучэння вопыту лепшых устаноў культуры, каб праводзіліся яны з абавязковым удзелам спецыялістаў па розных галінах культасветработы.

ВЯЛІКАЯ РОЛЯ ва ўздыме работы культасветустаноў належыць грамадскаму актыву. Цяпер культасветустановам дапамагаюць звыш 300 тысяч актывістаў. Толькі ў Брэсцкай вобласці створана больш 1800 праўленняў і саветаў клубаў і бібліятэк, у рабоце якіх удзельнічае звыш 15 тысяч актывістаў. Больш 200 чалавек з ліку інтэлігенцыі на грамадскіх пачатках вядуць актыўную работу ва ўніверсітэтах і школах культуры.

У канцы мінулага года выдатную ініцыятыву праявіла інтэлігенцыя Мотальскага сельсавета Іванаўскага раёна. Настаўнікі, медыцынскія работнікі і спецыялісты сельскай гаспадаркі, якія працуюць у гэтым сельсавеце, узялі на сябе абавязацельства актыўна ўдзельнічаць у рабоце культурна-асветных устаноў, аб'явілі паход за культуру роднай вёскі.

Дзейсны ўдзел прымаюць актывісты ў рабоце бібліятэк. Асаблівай увагі заслугоўвае арганізацыя бібліятэк-перасовак на кватэрах актывістаў-чытачоў. Такіх бібліятэк у Брэсцкай вобласці створана 412.

Толькі абапіраючыся на шырокі актыў інтэлігенцыі, камсамольцаў і моладзі, перадавікоў сельскай гаспадаркі, мы можам узняць культурна-асветную работу на ўзровень сучасных задач.

Работнікі культасветустаноў і кінасеткі Беларускай ССР паўсямесна ўключаюцца ў сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXII з'езду КПСС, за датэрміновае выкананне заданняў трэцяга года сямігодкі, за ўзорнае культурнае абслугоўванне працоўных.

Кінамеханікі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці абавязаліся гадавы план кінаабслугоўвання насельніцтва выканаць па ўсіх паказчыках да дня адкрыцця XXII з'езду КПСС, дамагчыся да канца 1961 года не менш 30 наведванняў кіно кожным жыхаром горада і не менш 10 — у сельскай мясцовасці; паставіць сельскагаспадарчых фільмаў на 340 сеансаў больш, чым у 1960 г.

Павышаныя абавязацельствы прынялі на сябе кінамеханікі Гарадоцкага, Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Віцебскага, Капаткевіцкага, Гомельскага, Скідзельскага, Гродзенскага, Аршанскага, Веткаўскага, Полацкага і многіх іншых раёнаў.

Калі ў 1960 г. за званне брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы ў рэспубліцы змагаліся калектывы ўстаноў культуры двух раёнаў і асобныя работнікі, дык сёлета ў гэтую высакародную барацьбу ўжо ўключыліся больш паўтары тысячы чалавек.

У кожным раёне неабходна мець узорныя клубы, бібліятэкі, кінаўстаноўкі, калектывы мастацкай самадзейнасці — свае маякі ў культурным будаўніцтве, на якія б раўняліся ўсе іншыя.

Задача культурна-асветных устаноў у тым, каб на аснове актыўнай прапаганды рашэнняў і матэрыялаў студзеньскага Пленума ЦК КПСС карэнным чынам палепшыць работу кожнага клуба і бібліятэкі, музея і парку культуры, кожнага кінатэатра і кінаўстаноўкі. Уся работа павінна быць накіравана на тое, каб мабілізаваць рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыю на датэрміновае выкананне планаў трэцяга года сямігодкі, на больш поўнае выкарыстанне наяўных магчымасцей і рэзерваў для павелічэння вытворчасці прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў вучыць нас таму, каб мы ўсю сваю работу пранізалі высокай прынцыповасцю, патрабавальнасцю і адказнасцю за даручаную справу, духам рэвалюцыйнай палымянасці і гарэння ў працы, каб мы асабістым прыкладам натхнялі ўсіх працаўнікоў горада і вёскі.

Работнікі культуры нашай рэспублікі прыкладуць усе свае намаганні, каб быць вартымі памочнікамі партыі ў будаўніцтве камунізма.

## Першыя вынікі

**Работнікі кінасеткі Веткаўскага раёна спаборнічаюць за дастойную сустрэчу XXII з'езду КПСС. План першага квартала яны выканалі 24 сакавіка г. г. на 101,2 працэнта.**

## Рэспубліканская нарада журналістаў

28 сакавіка ў Мінску адкрылася, скліканая па рашэнню ЦК КПСС рэспубліканская нарада работнікаў друку, радыё і тэлебачання. На нараду запрошаны сакратары абкомаў КПБ, якія займаюцца пытаннямі ідэалагічнай работы, загадчыкі аддзелаў прапаганды і агітацыі абкомаў КПБ, рэдактары рэспубліканскіх, абласных, раённых і шматтыражных газет, рэдактары часопісаў, карэспандэнты БЕЛТА і рэспубліканскіх газет, дырэктары выдавецтваў, кіруючыя работнікі Міністэрства культуры і Міністэрства сувязі БССР, Беларускага тэлеграфнага агенцтва, Камітэта па радыёвяшчанню і тэлебачанню пры Савеце Міністраў БССР, старшыні і галоўныя рэдактары абласных камітэтаў і рэдакцый радыёвяшчання і тэлебачання, дырэктары тэлевізійных студый, інструктары абкомаў партыі, якія займаюцца пытаннямі друку.

Кароткім уступным словам нараду адкрыў сакратар ЦК КПБ тав. Ф. А. Сурганаў.

З дакладам аб задачах друку, радыё і тэлебачання па выкананню рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС выступіў сакратар ЦК КП Беларусі тав. В. Ф. Шаура.

Затым былі заслуханы садаклады: рэдактара газеты «Звязда» В. А. Пыжкова «Аб асвятленні пытанняў камуністычнага выхавання працоўных», намесніка рэдактара газеты «Советская Белоруссия» І. М. Агеева «Аб асвятленні вопыту ідэалагічнай работы партыйных арганізацый», рэдактара газеты» «Калгасная праўда» В. І. Фясько «Аб асвятленні пытанняў сацыялістычнага спаборніцтва работнікаў сельскай гаспадаркі», рэдактара абласной газеты» «Гродзенская праўда» Г. С. Лысова «Аб асвятленні пытанняў партыйнага жыцця», рэдактара абласной газеты «Мінская праўда» М. Д. Пузікава «Аб асвятленні пытанняў сацыялістычнага спаборніцтва працоўных за выкананне сямігадовага плана» і рэдактара брэсцкай абласной газеты «Зара» І. А. Чарняўскага «Аб арганізацыі і метадах работы рэдакцыі з аўтарскім актывам».

У рабоце нарады прынялі ўдзел загадчык сектара газет аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС па саюзных рэспубліках тав. Ц. К. Купрыкаў і інструктар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС тав. А. А. Міляеў.

29 сакавіка на нарадзе працягвалася размова аб задачах друку, радыё і тэлебачання па выкананню рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС.

З прамовай выступіў загадчык сектара газет аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС па саюзных рэспубліках тав. Купрыкаў Ц. К.

Нарада закончыла сваю работу.

## ЛЕТАПІС ВЯДУЦЬ КІНААМАТАРЫ

У нашай краіне нарадзіўся і з кожным годам расце і пашыраецца самадзейны кінааматарскі рух. Культурны і тэхнічны кругагляд нашых людзей, асабліва моладзі, настолькі ўзрос, што яны не толькі жадаюць глядзець кіно, але імкнуцца і самі ствараць творы кінамастацтва.

Кінааматарскі рух даволі шырокі і ў нашай рэспубліцы. Пры палацах і дамах культуры, на прамысловых прадпрыемствах, у вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, школах, дамах тэхнікі працуюць звыш 100 самадзейных кінастудый. У іх займаецца каля 700 рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, служачых, вучняў і студэнтаў.

Самадзейная кінастудыя Дома тэхнікі Беларускай чыгункі зняла чатыры фільмы. Апошні з іх—«Разведчыкі будучыні»—прысвечан штодзённаму жыццю і працоўным поспехам шырока вядомай беларускім чыгуначнікам паравознай брыгады Ф. Фадзеева. Цяпер студыя здымае карціну, прысвечаную рацыяналізатарам і вынаходнікам чыгункі.

Кінастудыя пры Брэсцкім кінатэатры «Мір» стварыла кароткаметражны фільм «Сямігодку — датэрмінова». Сваю чарговую работу брэсцкія кінааматары прысвячаюць 20-й гадавіне геранчнай абароны Брэсцкай крэпасці.

У дзіцячай кінастудыі Мінскага Палаца культуры прафсаюзаў займаецца каля 40 вучняў. Дзеці вывучаюць кіназдымачную і праекцыйную апаратуру, метады кіназдымкаў, знаёмяцца з асновамі сцэнарнай справы, прымаюць удзел у лабараторнай апрацоўцы адзнятай кінаплёнкі. Гэтая студыя за параўнаўча кароткі тэрмін зняла кароткаметражныя нарысы «На возеры Нарач», «Сустрэча сяброў», «Піянерская двухлетка кліча» і «Дзень добры, вясна».

Актыўна працуюць самадзейныя кінастудыі Магілёўскага завода пад'ёмна-транспартнага абсталявання, завода штучнага валакна, Аршанскага ільнокамбіната, Добрушскай фабрыкі «Герой працы», Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту ў Гомелі і інш.

Аргбюро Саюза работнікаў кінематаграфіі БССР разам з Міністэрствам культуры правялі ў канцы 1958 года першы рэспубліканскі агляд самадзейных фільмаў. Ужо тады на агляд было прадстаўлена 17 аматарскіх кінакарцін, шэсць з якіх былі адзначаны дыпломамі. На першым усесаюзным аглядзе самадзейных фільмаў ад нашай рэспублікі ўдзельнічала тры кінатворы, адзін з якіх быў адзначан дыпломам ЦК ВЛКСМ і грашовай прэміяй.

Днямі пытанне аб становішчы і мерах дапамогі самадзейнаму кінамастацтву ў нашай рэспубліцы разглядалася на пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры БССР і прэзідыуме Беларускага рэспубліканскага савета прафесіянальных саюзаў.

У прынятай пастанове адзначаецца, што кінааматарскі рух да гэтага часу не меў арганізаванага кіраўніцтва, многія самадзейныя кінастудыі, асабліва на перыферыі, былі прадастаўлены самі сабе. Прафсаюзныя арганізацыі і органы культуры стаялі ў баку ад гэтай справы і не лічылі сваім абавязкам займацца кінааматарамі. Недастатковую творчую дапамогу мелі кінааматары і з боку работнікаў прафесіянальнага кінамастацтва.

Цяпер ужо не варта спрачацца пра тое, хто павінен кіраваць кінасамадзейнасцю. Практыка і вопыт работы з кінааматарамі ў Маскве, Ленінградзе і іншых саюзных рэспубліках паказвае, што кіраўніцтва самадзейнымі кінастудыямі і клопаты аб іх фінансава-матэрыяльным становішчы павінны несці міністэрствы, арганізацыі і ведамствы, у сістэме якіх гэтыя студыі працуюць. Між іншым, гэты парадак яшчэ ў 1959 г. вызначыў у сваёй пастанове ВЦСПС.

Саюз работнікаў кінематаграфіі павінен аказваць самадзейным кінастудыям творчую дапамогу і кансультацыі сіламі кінаработнікаў-прафесіяналаў.

Вельмі востра стаіць пытанне з забеспячэннем кінааматараў здымачнай апаратурай і кінаплёнкай. Справа ўскладняецца і тым, што некаторыя самадзейныя студыі набылі для сябе здымачныя камеры прафесіянальнага тыпу, якія разлічаны на 35-міліметровую кінаплёнку. Гэтая ж плёнка ў рознічны продаж не паступае, а адпускаецца толькі па фондах для дзяржаўных кінастудый. Вядома таксама, што аматарам вельмі цяжка авалодаць прафесіянальнай кінакамерай.

Адсюль вынікае адна катэгарычная рэкамендацыя: усе аматарскія кінастудыі і асобныя кінааматары павінны рабіць здымкі толькі камерамі, якія разлічаны на вузкую 16- і 8-міліметровую плёнку. У далейшым на фестывалі самадзейных фільмаў творы, знятыя на 35-міліметровай плёнцы, прымацца не будуць.

Вузкаплёначная здымачная апаратура і вузкая плёнка выдзяляюцца для продажу ў рознічным гандлі. Трэба толькі, каб Міністэрства гандлю БССР больш завозіла гэтых тавараў у гандлёвую сетку і асабліва ў магазіны абласных цэнтраў.

Між іншым, у Маскве ёсць спецыяльны магазін «Кінааматар», дзе можна набыць усё патрэбнае і нават праявіць і прагледзець на экране адзнятую кінаплёнку. Наспела патрэба адкрыць аддзел кінааматарскіх тавараў у Мінскім універмагу.

Вельмі хвалюе нашых аматараў праблема апрацоўкі адзнятай кінаплёнкі. Дапамагчы ў вырашэнні гэтага даволі складанага пытання можа ў першую чаргу Камітэт па радыёвяшчанню і тэлебачанню пры Савеце Міністраў БССР. Было б вельмі добра, каб ён даў указанне сваім тэлестудыям у Мінску, Гомелі і Віцебску прымаць ад кінааматараў у апрацоўку за невялікую аплату адзнятую імі вузкую плёнку. Гэта тым больш мэтазгодна, што лепшыя творы кінааматараў будуць перадавацца па тэлебачанню.

Акрамя гэтага, вялікую паслугу кінааматарам аказала б Упраўленне мясцовай прамысловасці пры Савеце Міністраў БССР, калі б яно пры адной з буйнейшых сваіх фатаграфій у Мінску, Брэсце, Магілёве і Гродна адкрыла лабараторыі для апрацоўкі вузкай плёнкі самадзейных кінастудый. Будзем спадзявацца, што яно ўлічыць гэту нашу просьбу.

У сваю чаргу Міністэрству культуры БССР варта было б абавязаць Мінскую кінастудыю навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, каб яна абсталявала ў сябе лабараторыю па пераводу адзнятай 16- і 8-міліметровай вузкай плёнкі на 35-міліметровую шырокую плёнку. Гэта дасць магчымасць лепшыя творы кінааматараў (асобныя сюжэты ці кароткаметражныя фільмы) дэманстраваць на масавым экране.

Слаба дапамагае кінааматарам Галоўснаб Міністэрства культуры БССР. Трэба, каб ён больш клапаціўся пра іх патрэбы, уключаў бы ў свае заяўкі плануючым органам матэрыялы і апаратуру, патрэбную самадзейным кінастудыям. Гэта ў першую чаргу датычыць здымачных вузкаплёначных камер, запасных частак да іх, вузкай 16- і 8-міліметровай абрацімай і негацыўнай плёнкі і хімікатаў для яе апрацоўкі.

Аргбюро Саюза работнікаў кінематаграфіі БССР на буйнейшыя самадзейныя кінастудыі, якія знаходзяцца ў Мінску, выдзеліла сваіх кансультантаў, але на перыферыі творчая дапамога кінааматарам аказваецца недастаткова. Саюз абавязаў усіх творчых работнікаў нашых студый, якія выязджаюць на перыферыю па службовых справах, абавязкова наведваць самадзейныя кінастудыі, праглядаць знятыя імі матэрыялы і даваць кансультацыі.

У мэтах абмену вопытам работы кінааматараў і адбору лепшых кінатвораў, зробленых самадзейнымі студыямі на другі Усесаюзны фестываль, Міністэрства культуры БССР, Беларускі рэспубліканскі савет прафесіянальных саюзаў і Аргбюро Саюза работнікаў кінематаграфіі БССР вырашылі правесці ў жніўні месяцы другі рэспубліканскі агляд самадзейных фільмаў. Лепшыя з аматарскіх фільмаў будуць адзначаны дыпломамі і грашовымі прэміямі. Апрача таго, асобныя з прэміяваных твораў, якія вызначацца па творчых і тэхнічных якасцях, могуць рэкамендавацца да паказу на масавым экране за асобную ўзнагароду іх стваральнікам.

У заключэнне хацелася б выказаць яшчэ адну, на наш погляд, вельмі важную параду нашым кінааматарам. Практыка і вопыт маскоўскіх арганізацый, якія займаюцца з кінааматарамі, а таксама вынікі нядаўняга фестывалю самадзейных фільмаў РСФСР у Ленінградзе, паказваюць, што стварэнне больш-менш вартых мастацкіх фільмаў кінааматарам не пад сілу. Мастацкі фільм па ўсіх сваіх кампанентах — твор вельмі складаны, і яго могуць стварыць толькі вопытныя прафесіяналы на дзяржаўных студыях, якія абсталяваны сучаснай тэхнікай.

Наша сённяшняе жыццё настолькі багата падзеямі сапраўды гістарычнага значэння, што кінааматарам няма патрэбы прыбягаць у сваіх творах да мастацкага вымыслу. Хай яны адлюстроўваюць нашу гераічную рэчаіснасць, сродкамі дакументальнага кіно, паказваюць нашых людзей у іх натхнёнай працы, падмячаюць іх высакародныя ўчынкі і барацьбу за пабудову камуністычнага грамадства. І гэта будуць тыя творы, якіх чакае наш глядач. Сапраўды няма матэрыялу больш удзячнага, чым гэты.

Кінааматары робяць вельмі карысную справу і ім трэба ўсямерна дапамагчы.

**П. ПАДБЯРЭЗКІ,**
**адказны сакратар Аргбюро Саюза работнікаў кінематаграфіі БССР.**

## ІМ ПРЫСВОЕНЫ ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ

Заслужаны дзеяч мастацтва БССР, галоўны рэжысёр і артыст Брэсцкага тэатра імя ЛКСМБ Юрый Андрэевіч **Арынянскі** — таленавіты майстар сцэны.

Спектаклі «Вясёлка», «Кветка шчасця», «Іркуцкая гісторыя» і іншыя, якія ім пастаўлены, атрымалі прызнанне савецкага гледача.

Яркае ўвасабленне атрымалі ў яго выкананні вобразы Ермашова («Брэсцкая крэпасць»), Сердзюка («Іркуцкая гісторыя»), Карэніна («Анна Карэніна»).

Сцэнічная прывабнасць — цудоўная рыса, якая характарызуе заслужанага артыста БССР Юрыя Іванавіча **Уласава**. Ён — адзін з заснавальнікаў Тэатра імя ЛКСМБ і за 15 год сыграў тут больш за сто роляў.

Яго творчасць вызначаецца добрым густам, шчырасцю, глыбінёй думкі і шчодрай эмацыянальнасцю. Найбольшыя творчыя ўдачы ён заваяваў у вобразах сучаснікаў.

Сяргей Ціграназіч **Давыдаў**, якому прысвоена званне заслужанага артыста БССР, працуе ў Гомельскім абласным тэатры з 1956 г.

Выхаванец Тэатральнага вучылішча пры Маскоўскім Малым тэатры, ён з вялікім творчым натхненнем выступаў у розных мастацкіх калектывах краіны, у тым ліку ў франтавых.

Найбольш значныя яго вобразы ў рэпертуары Гомельскага абласнога тэатра — Вярхоўскі («У бітве вялікай»), Касагораў («Ён уцякае ад начы»), Купрыянаў («Угрум-рака») і інш.

Гамяльчане добра ведаюць заслужаную артыстку БССР Тацяну Мікалаеўну **Скарута** — артыстку абласнога тэатра.

За пяць год работы на Беларусі яна набыла пашану сваёй творчай і грамадскай актыўнасцю. Яе ігра вызначаецца рэалістычнай манерай выканання, высокім натхненнем. Тацяна Мікалаеўна выступае ў сучасным і класічным рэпертуары.



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ М. ШОЛАХАВА.

Са здымкаў, прадстаўленых на ўсесаюзную фотавыстаўку «Сямігодка ў дзеянні».

Фота Я. Румкіна.
Фотахроніка ТАСС.

# Карысна і павучальна

З калгасаў і саўгасаў Магілёўскай вобласці ідуць весткі пра тое, як праходзіць фестываль сельскагаспадарчых фільмаў. У Магілёўскім раёне, напрыклад, у фестывалі ўдзельнічаюць 19 калгасаў і 5 саўгасаў. У гароднінаводчым саўгасе «Вейна» фестываль пачалі новым фільмам «У наватараў гароднінаводства». У калгасе імя Сталіна, дзе асноўная галіна сельскай гаспадаркі—жывёлагадоўля, першую праграму фестывалю склалі фільмы «Магутныя рэзервы», «Міжкалгасныя адкормачныя пункты», «Аўтаматыка і сельская гаспадарка».

Перад дэманстрацыяй карцін праводзяцца лекцыі і гутаркі. Актыўна выступаюць з дакладамі аграном калгаса імя Сталіна т. Ермалаева і аграном сельгасінспекцыі раёна т. Тарасенка. У многіх калгасах і саўгасах стала правілам сістэматычна паказваць сельскагаспадарчыя фільмы. У Крычаўскім раёне за апошнія два месяцы арганізавана 287 спецыяльных кінасеансаў. У дні фестывалю ў раёне працавала пяць калгасных кіналекторыяў.

У калгасах Клімавіцкага раёна добра працуе агітмашына, абсталяваная апаратурай дзённай кінапраекцыі. Па просьбе гледачоў сельскагаспадарчыя і навуковыя фільмы дэманструюцца перад тым, як калгаснікам выйсці на працу, у абедзенны перапынак, увечары—перад пачаткам мастацкага фільма.

Навукова-папулярныя фільмы ў калгасе «Перамога» Бабруйскага раёна ставяць тры—чатыры разы ў месяц. Распрацаван графік паказу ў кожнай паляводчай брыгадзе і на кожнай жывёлагадоўчай ферме. Калгаснікі паглядзелі фільмы «Вопыт аднаго калгаса», «Больш малака краіне», «Кукуруза на палях краіны» і інш.

Кароткаметражныя фільмы і кінасопісы «Навіны сельскай гаспадаркі» рэгулярна дэманструюцца ў сельгасарцелі імя Свярдлова Кіраўскага раёна. Яны, несумненна, паспрыялі таму, што калгас за кароткі тэрмін з адстаючых выйшаў у перадавыя.

Але тое, што зроблена ў вобласці па паляпшэнню прапаганды сельскагаспадарчых фільмаў,—пакуль толькі пачатак. Аддзелы культуры і райвыканкомы яшчэ недаацэньваюць ролю кінафестываляў. У адным з буйнейшых сельскагаспадарчых раёнаў вобласці—Бялыніцкім — у мінулым годзе агратэхнічныя фільмы прагледзела толькі 18 працэнтаў калгаснікаў. Сёлета фестываль сельскагаспадарчых фільмаў пачаўся са спазненнем і арганізавана праходзіць толькі ў адным калгасе. У Глускім раёне за месяц пастаўлена ўсяго сем кінасеансаў.

**Я. ВОЛКАЎ,**
**старшы дыспетчар Магілёўскага абласнога аддзела кінафікацыі і кінапракату.**

# За спіной перадавых

У раённым аддзеле культуры нам рэкамендуюць пабываць у Плёсах, у клубе калгаса «Перамога», раяць наведаць Міхалеўскую сельскую бібліятэку, называюць і клуб вёскі Брожа.

Вопыт гэтых перадавых у раёне клубаў і бібліятэк вывучаны і абагульнены. Пра іх часта ідзе гаворка на семінарах загадчыкаў культасветустаноў.

Нядаўна на занятках семінара загадчыца бібліятэкі калгаса «Перамога» Нэля Гаварушка падзялілася вопытам, як яна з актывістамі рыхтуе літаратурныя дыспуты і канферэнцыі кінагледачоў. Загадчык Брожскага сельскага клуба т. Сліўцоў расказаў пра арганізацыю цікавых і змястоўных тэматычных вечароў адпачынку. Загадчыца Варатынскага сельскага клуба Е. Блувал паведаміла, як у клубе наладжана праца гурткоў мастацкай самадзейнасці.

Пабудзеш на такім семінары — думаеш, што ўсе сельскія культасветустановы на Бабруйшчыне працуюць добра, што ўсюды калгаснік і рабочы саўгаса можа культурна адпачываць. Але на справе далёка не так.

Раённы аддзел культуры на семінарах выстаўляе на паказ работу лепшых культасветработнікаў, але не дамагаецца практычнага паляпшэння работы ва ўсіх клубах і бібліятэках, мірыцца з недахопамі.

Ад таго, што наладжаны добры адпачынак у калгасе «Перамога», не робіцца весялей, напрыклад, калгаснікам суседняй арцелі імя Аляксандра Неўскага. У цэнтры гэтага калгаса, вёсцы Кавалі, ёсць прасторны клуб. У клубе брудна, холадна. У час дэманстрацыі фільмаў тут арудуюць хуліганы, кураць, лаюцца, кідаюць на падлогу шалупінне ад семачак. Кінамеханік Іван Мельнік да гледачоў ставіцца груба, ашуквае іх, прысвойвае грошы. А іншы раз замест дваццацікапеечнага білета даросламу выдае дзіцячы, пяцікапеечны. Калгаснікі спрабавалі скардзіцца на кінамеханіка загадчыку клуба т. Гаўрыленку, але нічога не дапамагло.

Непадалёку знаходзіцца і другая вялікая вёска Цялуша — цэнтр калгаса імя Мічурына. Партарганізацыя гэтай сельгасарцелі часта абмяркоўвае пытанні ідэалагічнай работы. Але чаго варты гэтыя размовы, калі вось ужо другі год у Цялушскім клубе выбіты шыбы, у чытальным пакоі толькі адна лямпа. Часта сюды прыходзяць п'яныя, дэбашыраць.

Калгас імя Сталіна будуе брыгадныя клубы, і за гэта яго заслужана хваляць. Але ж пабудаваць самы лепшы будынак — яшчэ не ўся справа. Галоўнае — стварыць у клубе ўмовы для культурнага адпачынку калгаснікаў.

У вёсцы Канчаны клуб сёлятняй зімой амаль не апальваўся. Ёсць у вёсцы спевакі, танцоры, дэкламатары, аднак для ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці іх тут ніхто не запрашае.

Цяпер, калі працаўнікі вёскі ўключыліся ў актыўную барацьбу за ажыццяўленне рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС і рыхтуюць дастойную сустрэчу XXII з'езду партыі, для кожнага клуба і бібліятэкі адкрываецца шырокае поле дзейнасці, і ўсе яны павінны працаваць узорна.

**Н. ПРАКОПАЎ,**
**М. МІХАЛЮТА.**

## Тэатральны Мінск

Каб папулярызаваць работу тэатраў Мінска, Беларускае тэатральнае таварыства і Цэнтральная тэатральная каса выпусцілі першы нумар бюлетэня «Тэатральны Мінск». У ім апублікаваны праграмы тэатраў сталіцы на сакавік і красавік, расказана пра іх творчыя планы на 1961 г.

Мяркуецца, што бюлетэнь будзе выдавацца раз у два месяцы.

# САМАБЫТНАСЦЬ — ЛЕПШАЯ РЫСА МАСТАЦТВА

*Думкі, якія ўзніклі на аглядах мастацкай самадзейнасці Мінска*

ЗА ШТО мы больш за ўсё любім мастацкую самадзейнасць? За яе самабытнасць, нацыянальны каларыт, непасрэднасць. І няхай самадзейным артыстам часам не хапае вялікага майстэрства і сапраўднага прафесіяналізму, але калі іх выступленне прасякнута шчырасцю пачуццяў, маладым запалам і вызначаецца прастатой і натуральнасцю паводзін на сцэне, яно напэўна выклікча жывы эмацыянальны водгук у гледачоў.

У памяці яшчэ свежыя ўспаміны аб мінулагоднім рэспубліканскім аглядзе народных талентаў калгаснай вёскі. Колькі тады давялося пачуць і ўбачыць цудоўных хораў і вакальных ансамбляў, танцавальных і інструментальных калектываў, як багата быў прадстаўлены на сталічнай сцэне беларускі рэпертуар — ад народных песень і танцаў розных абласцей рэспублікі да твораў нашых кампазітараў! Улукаўская харавая капэла і хор саўгаса «Арэса» (Гомельшчына), Дзяляціцкая харавая капэла з Гродзеншчыны і цымбальныя аркестры, танцоры Віцебшчыны — усё гэта прыемна лашчыла слых і радавала вока гледачоў.

Творчасць удзельнікаў калгаснай самадзейнасці па сваёй натуральнай манеры выканання і па строгаму адбору канцэртнай праграмы — сапраўды самабытная і глыбока нацыянальная. Сельскія артысты не пераймаюць замежнай моды і не захапляюцца ультраджазавымі мелодыямі, салоннымі песенькамі-рамансамі, як гэта іншы раз яшчэ бывае ў гарадской самадзейнасці.

На сёлетнім аглядзе мастацкай самадзейнасці прадпрыемстваў і ўстаноў Мінска, побач са станоўчымі з'явамі ў творчасці асобных аматарскіх калектываў, нам давялося сустрэцца з фактамі дрэннага ўплыву на іх «таннай» эстрады і пераймання горшых узораў заходняй джазавай музыкі.

БЫВАЕ іншы раз так: працуе прадпрыемства добра, план перавыконвае, а вось з арганізацыяй культурнага адпачынку рабочых справа не ладзіцца. Прыкладна тое ж самае раней было на мінскіх аўтамабільным і трактарным заводах. Слава пра стваральнікаў магутных машын даўно перайшла межы нашай Радзімы. А сваімі народнымі талентамі ні аўтазаводцы, ні трактарабудаўнікі доўгі час не маглі пахваліцца: самадзейнасць іх была нешматлікай і непрыкметнай. І вось на гэтым аглядзе калектывы заводаў-гігантаў, як і іншых прадпрыемстваў Мінска (завода аўтаматычных ліній, радыёзавода), нечакана здзівілі сваёй мастацкай самадзейнасцю. За параўнальна невялікі тэрмін у заводскіх цэхах нарадзіліся новыя хоры, вакальна-інструментальныя ансамблі і нават аркестры.

Асаблівай масавасцю вызначаецца цяпер самадзейнасць аўтамабільнага і трактарнага заводаў — тут колькасць удзельнікаў павялічылася да дзвюх тысяч чалавек на кожным прадпрыемстве. Дастаткова сказаць, што на заключным канцэрце ўнутрызаводскага агляду аўтазаводцаў выступіла 700 чалавек.

У тым, што самадзейнасць аўтазаводцаў стала такой масавай і стабільнай — немалая заслуга кампазітара Ул. Алоўнікава. Ён па сваёй ініцыятыве стаў пастаянным шэфам, мастацкім кіраўніком-актывістам заводскіх артыстаў. Ён пабываў у цэхах, блізка пазнаёміўся са слаўным рабочым калектывам і дапамог выявіць і прыцягнуць да заняткаў у харавых і музычных гуртках многа новых таленавітых людзей. Сярод іх — работніца цэха лесавозаў С. Агейчык, эканамісты С. Дробыш, А. Мацвееў, якія цяпер з поспехам самі кіруюць у грамадскім парадку цэхавымі самадзейнымі калектывамі.

Гэты факт павучальны і радасны. Хацелася б, каб ён не быў адзіным, каб і іншыя майстры мастацтва, кампазітары, беручы прыклад з Ул. Алоўнікава, аказвалі бескарыслівую дапамогу аматарам сцэны, сталі іх мастацкімі кіраўнікамі-актывістамі.

Вядома, не ўсе яшчэ створаныя на аўтазаводзе хоры і музычныя гурткі дасягнулі высокага мастацкага ўзроўню і могуць парадаваць сваімі выканаўчымі магчымасцямі. Так, калі змешаны хор цэха шасі (хармайстар Н. Ільічоў) і мужчынскі хор інтэрната № 1 (кіраўнік С. Дробыш) спяваюць стройна, інтанацыйна чыста, дык гэтага яшчэ не хапае харыстам з ліцейнага і прэсава-кавальскага цэхаў. І тут многае залежыць ад кіраўніка-дырыжора, ад яго ўмення падабраць добрыя галасы для выканання вакальных партый і навучаць спевакоў-аматараў прыгожа і правільна спяваць. Было б няправільна патрабаваць цяпер, каб на нашы заводы прыйшлі кіраваць цэхавай самадзейнасцю спецыялісты з сярэдняй і вышэйшай музычнай адукацыяй. У нас такіх спецыялістаў выпускаюць пакуль вельмі мала. Таму мэтазгодна вылучыць з радоў самадзейнасці найбольш таленавітых удзельнікаў і рыхтаваць з іх музычна адукаваных кіраўнікоў-актывістаў. І правільна зрабіў калектыў музычнай школы аўтазавода. Педагогі школы на чале з дырэктарам В. Варатніковым абавязаліся падрыхтаваць на грамадскіх пачатках трох—чатырох дырыжораў-харавікоў без адрыву ад вытворчасці і столькі ж баяністаў.

Добра было б, каб калектывы іншых музычных школ Мінска, у прыватнасці на трактарным заводзе, паследавалі гэтаму прыкладу. У нашай самадзейнасці вельмі мала дырыжораў. І зусім ненармальна, калі кіраўнік хору выступае адначасова ў ролі хармайстра і баяніста-акампаніятара. Расцягнуўшы мяхі баяна, такі кіраўнік кіўком галавы толькі дасць знак, дзе трэба ўступіць у песню, а потым харысты ўжо самі спяваюць на сваю рызыку, без рукі дырыжора. Пад кіраўніцтвам «хармайстра-баяніста» песні, як правіла, гучаць вяла і нецікава, канцы музычных фраз тушуюцца, а пра дынамічныя адценні і гаворкі быць не можа. Калі б хорамі трэцяй клінічнай бальніцы, станкабудаўнічага завода імя Варашылава і мінскага дарожнага будаўніцтва кіравалі сапраўдныя дырыжоры, а не баяністы, тады спяванне гэтых калектываў вызначалася б большай зладжанасцю і мастацкай выразнасцю.

Наогул, чаму самадзейныя спевакі абавязкова павінны карыстацца «музычнымі хадулямі», выконваючы творы пад баян, або яшчэ горш — пад акардэон? У суцэльным патоку гукаў удзельнікі хору дрэнна чуюць адзін аднаго, іншы раз нават збіваюцца з танальнасці, павышаюць або паніжаюць музычны строй песні. Ці не лепш арыентаваць самадзейных артыстаў на шматгалосае акапэльнае спяванне, хоць яно значна больш складанае і патрабуе напружанай рэпетыцыйнай працы? Тым больш мы ведаем мноства прыкладаў, калі спевакі-аматары з поспехам выступаюць без інструментальнага суправаджэння. Можна прыгадаць, напрыклад, як музычна спявае без акампанементу народная харавая капэла Брэсцкага клуба чыгуначнікаў.

Парадаваў майстэрствам спявання а капэла хор клуба трактарабудаўнікоў (кіраўнік — студэнт кансерваторыі Ул. Раговіч). У гэтым калектыве добры падбор галасоў як мужчынскіх, так і жаночых, кампактна і свежа гучаць у ім усе вакальныя партыі. Малады здольны дырыжор Ул. Раговіч умее знаходзіць патрэбныя тэмбравыя фарбы і выразныя адценні для перадачы стылю і характару кожнага твора. Творчы поспех гэтага хору сведчыць аб тым, што трэба шырэй развіваць і прапагандаваць паліфанічнае акапэльнае спяванне ў самадзейнасці — за ім вялікая будучыня.

САМАБЫТНАСЦЬ таго ці іншага творчага калектыву ў многім вызначаецца зместам рэпертуару. Хіба можна назваць самабытным, скажам, беларускі пеўчы калектыў, у рэпертуар якога ўваходзяць адны варонежскія і саратаўскія песні і ніводнай беларускай? Вядома, не. Калі мы слухаем пінскіх самадзейных спевакоў, дык пазнаём іх па шырока распеўных, з іскрынкамі гумару палескіх песнях. Смаргонскія і віцебскія танцоры вабяць сваімі арыгінальнымі «полькамі» і «кадрылямі». Так амаль у кожнай вёсцы, у кожным раёне рэспублікі народ стварае музычна-танцавальны фальклор на аснове мясцовых традыцый і звычаяў. І калі тыя ж стваральнікі народных танцаў, песень і частушак выступаюць з імі на сталічнай сцэне, мы гаворым, што гэтае мастацтва — самабытнае. Яно нас радуе і хвалюе.

А паспрабуйце знайсці рысы самабытнасці ў рэпертуары гарадской, у прыватнасці, мінскай самадзейнасці. Яе бадай няма. Калі на вёсцы народная песнятворчасць жыве і развіваецца, дык у горадзе заводскі і фабрычны фальклор — вельмі рэдкая з'ява. З шматлікіх канцэртных нумароў на аглядзе ўдалося пазнаёміцца толькі з адным арыгінальным творам мясцовых аўтараў—песняй аб трактарным заводзе (музыка А. Мамантава, словы заводскага паэта М. Гараніна). Мала таго, і прафесіянальныя кампазітары рэспублікі яшчэ недастаткова адлюстроўваюць у музыцы працоўныя будні беларускага рабочага класа, асобных прадпрыемстваў і будоўляў. З усяго, што напісана нашымі кампазітарамі на рабочую тэму (а гэта літаральна каля дзесяці назваў!), у народзе трывала прыжыліся толькі дзве песні Алоўнікава «Як у нас на трактарным...» і створаная нядаўна— «Марш аўтазаводцаў», якая прагучала ў канцэртах заводскага і раённага аглядаў.

Ці варта пасля гэтага вінаваціць адны самадзейныя калектывы за тое, што ў канцэртных праграмах рэдка гучаць творы на тэмы мясцовага рабочага жыцця. Трэба, каб нашы кампазітары перанялі вопыт ленінградскіх аўтараў і сумесна з беларускімі паэтамі стварылі жыццярадасныя песні і хоры пра заводы-гіганты, аб праслаўленых героях сямігодкі. Такога сучаснага рэпертуару даўно чакаюць як прафесіянальныя, так і самадзейныя выканаўцы. Добра было б таксама прыцягнуць да напісання твораў на рабочую тэматыку пачынаючых аўтараў. Іх баявыя надзённыя частушкі, прыпеўкі значна ажывілі б праграмы канцэртаў. І тады заводская і фабрычная самадзейнасць не будзе выглядаць такой бязлікай, яна набудзе самастойнае творчае аблічча.

ЯК ІНШЫ РАЗ робіцца крыўдна за асобныя вакальныя ансамблі, за салістаў-спевакоў, якія марна растрачваюць свае сілы на развучванне і прапагандаванне з эстрады «залірычаных» песенек пра няўдалае каханне, дзявочыя пакуты і перажыванні, пра няздзейсненыя спатканні. Гэтыя аднастайныя па мелодыі і па зместу песні з сумным настроем, аўтарам якіх у большасці з'яўляецца кампазітар Панамарэнка, літаральна перапоўнілі нашу самадзейнасць. Няма, бадай, такога калектыву ў Мінску, дзе б не гучалі «Палюбіла я непрыгожага», «Не прыйшоў мілы мой на спатканне» і іншыя песні, вельмі падобныя адна на адну. Проста незразумела, якім чынам гэтая бяздумная лірыка трапляе ў нашу самадзейнасць, можа гэта—справа рук метадыстаў дамоў народнай творчасці?

Здзіўляе і адсутнасць густу ў некаторых мастацкіх кіраўнікоў, якія не ў стане як след скласці канцэртную праграму, зрабіць яе цікавай і разнастайнай. Толькі з-за непатрабавальнасці дырыжора П. Калошына харавы калектыў Міндарбуда выступіў на раённым аглядзе з аднатыпнымі творамі «саратаўскага рэпертуару», а пра свае беларускія песні забыўся. Якая была неабходнасць, напрыклад, выконваць услед за песняю «Не прыйшоў мілы мой на спатканне» другую, вельмі падобную на папярэднюю, дзе гучаць тыя ж самыя фразы: «...што ж ты, мілы, у час прызначаны на спатканне не прыйшоў?» («За ваколіцаю» Левашова).

У цяжкім становішчы знаходзяцца салісты. Ствараецца такое ўражанне, што яны прадастаўлены самі сабе і аб іх росце па-сапраўднаму ніхто не клапоціцца. Не на кожным прадпрыемстве ёсць вакальныя гурткі і студыі, а хараваму дырыжору працаваць з салістамі па сутнасці няма часу. Таму ў большасці бывае так, што самадзейны саліст развучвае з баяністам пачутую па радыё ці ў кіно песню і выступае потым з ёю на канцэртнай эстрадзе, не маючы ніякага ўяўлення аб правілах голасавядзення і плаўнасці гуку, не ўмеючы правільна браць дыханне і г. д. Толькі таму, што з самадзейнымі спевакамі не займаюцца пастаноўкай голасу і не вучаць вакальнаму мастацтву, многія з іх пераймаюць Русланаву, Шульжэнку, Трошына, слепа капіруюць іх выканаўчую манеру.

З такімі выпадкамі мы сутыкнуліся і на аглядах. Супрацоўніца другой клінічнай бальніцы М. Лізунова, пераймаючы «русланаўскі стыль», спявае «Саратаўскія прыпеўкі» і песню «Я на горку ішла» па-заліхвацку, з псеўдацыганскім надрывам, фарсіруючы голас. А ў тэхніка В. Пакроўскага з электратэхнічнага завода іншая крайнасць: ён не толькі падладжваецца пад інтымны «камерны» голас Трошына, але і выконвае песні з яго рэпертуару крыху нараспеў, нібе меладэкламуючы.

Спяванне «з чужога голасу» і бессэнсоўнае перайманне артыстаў-прафесіяналаў пазбаўляе самадзейнага выканаўцу творчай індывідуальнасці. Дык ці не лепш спяваць проста, натуральна, сваім, ад прыроды дадзеным голасам? Уладальнікі прыгожых па тэмбру галасоў Э. Барчук і Ю. Дзяргун (трактарны завод), Г. Харкоў і М. Рутман (электратэхнічны завод), С. Дробыш (аўтазавод) іменна такога творчага прынцыпу і прытрымліваюцца, і гэта забяспечвае ім поспех у авалоданні майстэрствам.

Гарадскому Дому народнай творчасці варта звярнуць увагу на працу з салістамі, папрасіць народных артыстаў Л. Александроўскую, М. Дзянісава, М. Сярдобава, Р. Млодэк, В. Ваўчанецкую і іншых, каб яны ўзначалілі вакальныя гурткі і студыі на прадпрыемствах і аказалі дапамогу ў выхаванні спевакоў-аматараў.

НА ГАРАДСКУЮ самадзейную сцэну пад выглядам эстраднага жанра пачалі пранікаць замаскаваная пошласць і халтура, чуллівасентыментальныя рамансы і пустыя факстротныя песенькі. У асноўным рассаднікамі музычнай макулатуры з'яўляюцца, як правіла, джаз-аркестры, якія ёсць цяпер амаль ва ўсіх клубах мінскіх прыдпрыемстваў. Справа даходзіць да таго, што сямтам нават у цэхах спрабуюць ствараць невялікія джазавыя ансамблі. Гэта ўжо занадта! І чаму ўзялі за моду завяршаць канцэртную праграму абавязкова выступленнем «джаза»? Так па крайняй меры было на аглядзе самадзейнасці аўтазавода, тое ж самае паўтарылася ў трактаразаводцаў. Іх аркестры па свайму складу нешматлікія, падбор інструментаў зусім выпадковы, таму мелодыя знікае, застаецца адзін сінкапіраваны рытм. Навошта ствараць такія аркестры, якая ад іх карысць?

Мы не супраць эстраднага жанра ў самадзейнасці. Але трэба папулярызаваць вясёлую, жыццярадасную эстрадную музыку савецкіх, у тым ліку беларускіх кампазітараў. І калі ўжо брацца за стварэнне джаз-аркестраў, дык дамагацца, каб яны былі паўнацэннымі творчымі калектывамі і не гналіся за вонкавымі паказнымі эфектамі.

Самабытнасць—лепшая рыса мастацтва. Толькі дзякуючы ёй нашы аматары сцэны могуць знайсці ключ да сэрца народных мас. Пра гэта трэба заўсёды памятаць і да гэтага трэба пастаянна імкнуцца.

**Г. ЗАГАРОДНІ.**

РЭПЛІКА

# Як наламаць дроў...

Цяжка стаць майстрам эпіграмы, але можна. Убачыў, скажам, у кнізе друкарскую памылку, — абыгрывай, колькі моцы маеш. Купіў пісьменнік машыну, думай: а як гэта на ёй праехацца па ягонай творчасці?..

Але вось, нарэшце, эпіграма напісана, знойдзена забрала-псеўданім— шыбуй тады прамою дарогай у «Дзядоўнік на Парнасе», у той самы, што ў «Полымі». Палымяны табе там наладзяць прыём і надрукуюць, не сумнявайся, бо вось гэткае ж надрукавалі ў трэцім нумары часопіса:

Аляксею СЛЕСАРЭНКУ,
заслужанаму дзеячу мастацтва БССР

*Амаль байка*

Вы любіце і шум і грук,
Для «ЛІМа» Вас здымае Крук.
Ды званне —
Справа ўласных рук,
Таму і паўстае пытанне:
Ці не пакрыўджан майстар Крук,
Калі Вы ходзіце са званнем?

Якраз **ЯТУТА.**

Калі ты пачынаючы гумарыст, шмат чаму можаш павучыцца на гэтай «эпіграме». Па-першае, старайся пісаць як мага больш незразумела, не бяда, што для чытача гэта будзе рэбусам: абы табе самому смешна было. Па-другое, ломячы коп'і, умей наламаць дроў. Табе не абавязкова ведаць, што, скажам, Аляксей Слесарэнка — заслужаны дзеяч **культуры** БССР (не сумняваючыся, можаш замест культуры паставіць **мастацтва**), што ўвогуле ганаровае званне—не «справа ўласных рук». Для цябе галоўнае — **абразіць** чалавека. Не абавязкова таксама ведаць, чаму нядаўняе прысваенне А. Слесарэнку ганаровага звання «адзначаецца» ў «Дзядоўніку», а не хаця б у «Хроніцы», якая на наступнай за ім старонцы.

Радкі пра «майстра Крука» таксама добра пачытай: гэта спатрэбіцца. Калі нялюбы табе пісьменнік выдасць новую кнігу, а ты захочаш кінуць на яе цень, дык не забудзь аблаяць і машыністку, што перадрукоўвала твор. Цень тады будзе больш густы.

А галоўнае — смейся і абражай, смейся і абражай, як Якраз Ятута, як і Яўсей Дабрасей — аўтар фельетона «Размова з раманістам», што ў тым жа выпуску «Дзядоўніка».

Не называй сябе і таго, каго маеш на ўвазе. Няхай сам здагадаецца: можа, прыбяжыць у «Полымя» паспрачацца — вось тады і будзе смех! Чытачу нічога ведаць не трэба, бо ён, чаго добрага, яшчэ раззлуецца. А так: намякні, што нейкі там раманіст піша дзеля грошай (гэта вельмі дасціпна), сам жа не кажы, колькі атрымаў за абразлівы фельетон...

Вось так і дзейнічай.

. . . . . . . . .

А ўвогуле, кінуўшы жарты, хочацца сказаць: «Не дурэй, браце Дабрасей, і ты, сябра яго, не крычы: «Я тута!» Ты, можа, і **тута**, ды ісціна не з табой. І не з рэдакцыяй часопіса «Полымя», што пад выглядам гумару выдае абразу!..»

**На здымку:** выступае дуэт. Кантралёр Роза **Бяссмертная** і медработнік Эма **Барчук** — удзельніцы мастацкай самадзейнасці Мінскага трактарнага завода.

НАШ СУЧАСНІК
У ЖЫЦЦІ І МАСТАЦТВЕ

# РАСПАЗНАННЕ ПРЫГАЖОСЦІ

Характар сучасніка... Ён шматгранны і глыбокі, бо герой сённяшняга дня — чалавек працы, незвычайна багаты духоўна, ён востра адчувае веліч нашага жыцця, яго прыгажосць і размах. Вось чаму мастацкі паказ сучасніка вымагае ад пісьменніка высокай актыўнасці думкі, шырыні інтэлектуальнага погляду на свет. Інакш быць не можа: тая абмежаванасць, беднасць духоўнага жыцця герояў, якая відаць у іншых творах, ніяк не дапамагае раскрыццю характару сучасніка.

Рысы гэтага характару, пададзеныя буйна, маштабна і, галоўнае, інтэлектуальна значна, знаходзім у некаторых нашых празаічных творах апошняга часу. Можна прыгадаць эпічнага брылеўскага дзеда Вячэру, надзеленага выключным багаццем духоўнага жыцця, напісанага з мудрай аўтарскай да яго любасцю; Пятра Шапятовіча з «Трывожнага шчасця» І. Шамякіна і гераіню М. Лупсякова з аповесці «Пабіраха», характар якой тонка і чалавечна намаляваў пісьменнік, паказаўшы праз яго глыбокі сэнс тых змен, якімі жыве цяпер наша вёска. Усё гэта вобразы, у якіх праўда жыцця, яго паэзія спалучаюцца з мастацкай пранікнёнасцю і значнасцю думкі.

У першай і другой кніжках «Полымя» за гэты год надрукавана першая частка новага рамана П. Пестрака «Серадзібор», прысвечанага пасляваеннай калгаснай вёсцы. Лепшым яго старонкам уласціва вострае пачуццё сучаснасці, інтэлектуальнай прыгажосці людзей нашага часу.

Пісьменнік не надта спакушаецца тымі натуральнымі цяжкасцямі, што чакалі жыхароў партызанскай вёскі Серадзібор пасля вяртання іх да мірнай працы, але і не ўтойвае іх. Можна лёгка было зрабіць пераадоленне гэтых цяжкасцей адзіным сродкам характарыстыкі герояў (што і было характэрна для многіх твораў на тэму пасляваеннай мірнай працы), але П. Пестрака, заўсёды ўважлівага да ўнутранага свету чалавека, яго інтэлектуальнай і маральнай вартасці, цікавіць не знешняя напружанасць дзеяння, а напружанасць духоўнага жыцця герояў, багацце іх думак і эмоцый.

Своеасаблівая кампазіцыя твора, наколькі гэта можна меркаваць па першай частцы: у ёй няма прамалінейнага падпарадкавання матэрыялу сюжэтнай схеме. Пра сюжэт у звычайным разуменні аўтар якраз, здаецца, не так і дбае. У творы лёгка выдзеліць паасобныя навелы, прысвечаныя старому калгасніку Несцеру Падкове, партызанцы Алесі, аграному Платону Грушку, доктарцы Веры Ігнатаўне і інш. І калі раман не рассыпаецца, дык, значыць, ёсць у ім нешта такое, што робіць яго і дастаткова цэласным і стройным. Гэта «нешта», кажучы словамі Л. Талстога, — адзінства «нравственного отношения автора к предмету», адзінства яго эстэтычнай сістэмы. Аўтарскія адносіны да герояў, якія праступаюць не дэкларатыўна, а ў самым спосабе паказу чалавека, у даверы да яго жыццёвай існасці, у непрымушаным раскрыцці характараў— і ствараюць цэласную эмацыянальную атмасферу і светлую танальнасць твора.

Сапраўдная ўдача пісьменніка — стары Несцер Падкова, вобраз якога зроблены на багатым паэтычным матэрыяле. Несцер — неад'емная частка Серадзібора, жывая яго гісторыя, увасабленне ўсяго лепшага, чым багаты простыя людзі вёскі. А багацце гэта — душэўная прыгажосць, тое неганарыстае, але дзейснае ўяўленне пра сваё месца на зямлі, пра тую долю, якую і працай, і розумам, і сэрцам трэба ўнесці на шчасце людзям. Яны, серадзіборцы, толькі што перажылі страшэнную навалу — вайну, але яна не зрабіла іх жорсткімі. Наадварот! Душы серадзіборцаў раскрыты насустрач дабру, любасці, вайна яшчэ больш зблізіла іх. Сімвалічныя і шчодрыя на пачуццё такія радкі рамана: «Серадзібор, прабіўшыся веерам некалькіх вуліц у лясны гушчар, спіць у світальнай сіняй чысціні. Можна ўбачыць сям-там прачыненыя весніцы і веснічкі — здаецца, вось зараз нехта выйдзе з хаты і зачыніць іх. Прачынены не толькі весніцы і веснічкі, але і дзверы. Серадзібор можа нават пахваліцца, што там ніхто не замыкае дзвярэй нанач. Так павялося здаўна. Так гэты запаветны звычай пачаў вяртацца і пасля вайны».

Несцер Падкова пражыў доўгае жыццё, пра яго аспірант Грушка кажа, што ён разумее душу зямлі, што і сваю душу ён аддае ёй. Але гэтага мала. Душа старога належыць калгасу, людзям. Для іх ён выпрасіў у генерала, калі расфарміроўвалі партызанскае злучэнне, дзесяць коней; яму справа ёсць да ўсяго, што тычыцца зямлі, аднавяскоўцаў. І людзей ён мерае тым, наколькі ляжыць у іх душа да грамадскай справы, да таго, каб рабіць добрае людзям. «Свой»— кажа ён генералу, калі той даў яму коней, «свой» — думае стары пра галоўнага агранома вобласці Кляновіча, калі бачыць, што ён любіць і разумее зямлю. Нездарма ў вёсцы Несцера завуць «сазнацельным». Сыну Данілу, які едзе ў раён на пленум, ён наказвае: «Глядзі, вядзі лінію, раскажы пра тое, што не там бульбу пасадзілі, дзе трэба, што спрачаліся, раскажы, што старшыня вельмі позна выходзіць на работу, раскажы, што людзі трывожацца, як будзе з працаднямі... Усё, Даніла, раскажы, не палохайся... Пра чайную раскажы, што няма таго дня, каб Верабей там не прападаў. Усё раскажы, няхай гневаецца. Як паправіцца — будзе госцем і другам, а як не — падлізнікамі яму не будзём».

Вобраз Падковы напісаны аўтарам буйна, абагульнена. Пісьменнік не надае яму якіх-небудзь незвычайных знешніх рысаў ці якой-небудзь унутранай «загадкі»; ён разумее: нельга псаваць такі цэльны, гарманічны характар. Стары моцны сваім інтэлектам, жыццёвай мудрасцю, ясным поглядам на свет. Любоўна выпісвае аўтар яго акружэнне: садок, хату, тое, як Несцер раніцой мыецца ля студні. Усё гэта зроблена шчыра, проста, без усякага слоўнага і псіхалагічнага мудрагельства: талент П. Пестрака вельмі гарманічны. Пісьменнік валодае добрай здольнасцю па-новаму асвятліць сотні разоў апісанае, тое, што, здавалася б, даўно перастала быць адкрыццём. Сакрэт — у трапяткім дотыку да душэўнага руху чалавека, у нечаканым эмацыянальным акрэсленні яго сутнасці. Вось, скажам, Пестрак піша, што Максім Грушка, бацька Платона Грушкі, «перастаў жыць». Гэты, на першы погляд, наіўны выраз надзвычай добра перадае ўспрыманне трагедыі маленькім Грушкам і тую душэўную асцярожнасць, з якой пра гэта піша аўтар.

Уменне выявіць паэзію звычайнага, будзённага відаць і ў апісанні Пестракам першага калгаснага сходу ў Серадзіборы. Ён пададзены падрабязна, нават вельмі падрабязна. Хоць нічога асаблівага на гэтым сходзе не адбылося, але чытаецца раздзел з цікавасцю, бо бачна ў ім жывое трапятанне думкі аўтара, яе харошая суладнасць з тым, пра што расказана.

Пестрак даволі шчодра малюе ў рамане вясковы быт. Але ён не ўпадае ў бытавізм, у смакаванне каларыту, якімі грашаць яшчэ многія нашы творы пра вёску.

Ёсць у рамане П. Пестрака маленькая гісторыя пра тое, як стары Несцер адарваў душу ад уласцівай яму раней «сялянскасці». Але спачатку скажам, што такое яго хата. Яна, піша аўтар, старасвецкая, без ніякіх перагародак; падлога, хоць і пакладзена, але не да канца, не да парога. «Так у свой час настояў стары, бо к чаму яна, гэтая падлога, ля печы, з якое гаспадыні выцягваюць гаршкі, чыгуны з варывам сабе і свінням?.. Можа і добра сказаў стары Несцер, што не месца тут падлозе... Няхай на гэтым месцы хаты астаецца яна — матка-гліна, на якой пражылі век і нікому нічога ад гэтага не сталася... Казаў, што калі, напрыклад, зімою ў мароз ацеліцца карова або акоціцца авечка, куды ж ты панясеш гэты набытак, каб абагрэць яго? Толькі ў хату. І як ты яго будзеш грэць на драўлянай падлозе? Гэта ўжо неяк людзям непрыемна».

Маляўнічае, вельмі выразнае апісанне! Што ў ім добрае, дык гэта мастацкая **апраўданасць** дэталей быту. Пестрак разумее, што атрыбуты «сялянскасці» не могуць жыць нейкай самастойнай, адасобленай ад зместу твора прыгажосцю. У хаце Несцера Падковы ўсё стаіць на сваім месцы: так патрабуе не толькі традыцыя, непарушанасць быту, але, у першую чаргу, **мэтазгоднасць.**

І ўсё ж гэты добры кавалак існаваў бы ў рамане сам па сабе, каб аўтар не падпарадкаваў дэталі быту ўнутранаму жыццю героя, тым зменам, што адбываюцца ў ім.

Нядаўняя перамога над ворагам, шчасце вызвалення, шырыня прастораў, што адкрыліся перад працаўнікамі вёскі пасля вайны, — усё гэта накладвае адбітак і на жыццё Несцера Падковы. Улюбёны ў зямлю, у прыроду, ён радуецца, што і Платон Грушка, і Кляновіч заклапочаны, каб зрабіць зямлю, жыццё яшчэ прыгажэйшымі. І вось аднойчы раніцай стары, як піша аўтар, «адчуў непрыемнасць ад хаты». «Не, не такая павінна быць хата», — думае ён.

«—Кацярына, Даніла! — гукае Несцер. — Давайце занясём стол за гумно, будзе лепш. Ну, куды людзей тут саджаць у хаце, калі такая брыдота па кутках?

— Ты толькі цяпер убачыў? — буркнула Тэкля.

— А я табе скажу, што толькі цяпер і ўбачыў... — адказаў крыху збянтэжаны Несцер».

На вобразе Падковы яскрава відаць, як інтэлектуальны погляд аўтара на рэчы, на жыццё, эмацыянальна-светапогляднае, калі можна так сказаць, адчуванне сучаснасці — дазволілі яму ўнікнуць і бытавізму і збедненасці, духоўнай абмежаванасці ў паказе сваіх герояў.

Праніклівасць і ўдумлівасць духоўнага погляду пісьменніка — гэта ад пошукаў і распазнання прыгажосці ў жыцці, прыгажосці, адухоўленай інтэлектуальнай прысутнасцю ў ёй чалавека. Імкненне паказаць герояў не толькі ў дзеянні, але і ў асэнсаванні імі сваёй працы, свайго месца на зямлі, усяго таго, што было да іх і што акружае іх цяпер, — заўважаецца і ў жанравых асаблівасцях рамана, калі аўтар свабодна ўплятае ў яго даведкі гістарычнага, навуковага парадку. Так, расказваючы ў адным месцы твора гісторыю празвання шляхцюкоў вёскі Забіякі «бодкамі», аўтар заўважае, што «у народзе і да нашых часоў асталіся прымаўкі-параўнанні як, напрыклад: «Конь не хоча бегчы, хоць ты яго бодкаю пары». У дачыненні да чалавека: «Ой, ты, як конь той, якога трэба бодкаю пароць» — і далей дае такую зноску: «Гэтае характэрнае слова «бодка», трэба думаць, паходзіць як свайго роду беларускі сінонім, ад рускага слова «бодать» («Бодливой корове бог рог не дает»).

Стыль новага твора П. Пестрака ўвогуле багаты: аўтар не дапускае ні аднастайнай стылізацыі пад на-

